І сягодняшні Урад, „апраўляньнікаў“ моральных, Урад, на які, як кажуць, глядзіць Эўропа, так-сама пашоў старымі шляхамі і абсалютна не зьмяніў палітыкі да нас. Дык і тут можна было-б зрабіць вывад: нашто-ж гэтыя гутаркі, нашто гэтае дурэньне галавы, калі загары ведама, што будзе, калі вядомыя вынікі гэтых соймавых спрэчак?! На адзін ківок палцам п. Бартля Сойм будзе паслушны, будзе хадзіць, як па нітцы, спаўняючы яго загады...

Маршалак звоніць: Пане Пасьле Станкевіч! Кажу так да ксяндза, як і да ўсіх прамоўцаў, якія будуць прамаўляць, каб захацелі зьвярнуць увагу на тое, што кожнаму паслу паасобку вольна баяцца і быць паслушным. Сойм-жа, як установа, нікога не баіцца і нікому ня ёсьць паслушным. (Воплескі на левіцы).

### Не да Сойму і не да Ураду, а да народу.

Вось-жа, апіраючыся на гэтым, праўду кажучы ня думаю зьвяртацца ані да Ураду, ані да Сойму, бо рэч ясная, што ўсё гэта было-б дарэмным; ды гаварыць вісельніку аб пятлі і прыкра і ня выпадае. Недабор-жа за трэцяю чэцьвярць году ў лічбе 16 з паловай мілёнаў і ўвесь праект бюджэтны на апошнюю чэцьверць году ў лічбе каля паўміліярда, для нас ёсьць пятлёй, бо тут у значнай меры ёсьць мазоль і кроў так-жа і нашага народу, а як я сказаў ужо, яго патрэбаў абсалютна тут ня ўзялі пад увагу, яго моўчыкам прайшлі і толькі цяжар сьціравалі проці нас. Дык кажу гэта толькі да свайго народу, а не да каго іншага!

(Далей будзе).

## Із Заходняе Беларусі.

### Лісты.

#### Самадум паліцыі.

(Жодзішкі, Вялейскага пав.)

Хто-ж з нас Беларусаў не дастаў тае ці іншае пячаці на свaей скуры з боку ў нас на „Крэсах“ рассвавoленых паліцыянтаў — ад паноў „парадку“ і „моральнасьці“, якіх улада даходзіць да бесканечнасьці. Хто-ж з нас гэтага не адчувае? З пэўнасьцяй можам сказаці, што кожны шчыры сын нашае бацькаўшчыны — Беларусі іх (пячаткі) пераносіў і пераносіць, бо ён не адракаецца прыродай назначанай яму працы і будзе яе выпаўняць далей,не зважаючы на тое, што на яго галаву льлюцца памыі. І не пабаіцца ён гэтага нялюдзкага зьдзеку-тэрору, а яшчэ болей загартуецца і зробіцца моцным, бы тая скала, якая істнуе вякі...

Наўперад маю на ўвеце (ўвазе) сказаць аб Жодзішнай паліцыі, а асабліваj аб яе адносінах да беларускага руху і наагул да ўсяго насяленьня. Калі так ужо наагул сказаць, дык яна (паліцыя) вельмі жорстка адносіцца да Беларусаў і як довад іхняй жорсткасьці зьяўляюцца тыя нялюдзкія пабоі, якія зносяць нашыя сяляне бяз жаднае прычыны. Часта яны, гэтыя няпрошаныя госьці, увалюцца ў хату, дзе супакойна і парадкам гуляе моладзь, не падымаючы жадных авантураў, а яны „stróże porządku“, ледзь ад паглядду шклянога бога трымаючыся на нагах (кожны раз на вечарынах гэта бывае), нарушаюць заўсёды гэтую цішыню сваім нялюдзкім буяньнем, а найчасьцей пабоямі, якія яны робяць сыстэматычна. І часта іхняя зьвярыная злосьць, над нявінным безбаронным чалавекам даходзіць да безгранічнасьці. Вось ведаю некульк і фактаў. Яшчэ вясною так зьбілі паліцыянты старога, (здаецца мае 60 год) ды да таго хворага чалавека, Янку Рыдзеля, што проста аж страх. Завёзшы на пастарунак, рабілі з ім, што хацелі, і зьдзекаваліся, немяркуючы, як над Хрыстом. За што? Ды проста бяз жаднае віны. Аднаго разу паліцыя спраўляла баль, а ён, як ночны вартаўнік мястэчка, паглядзеў праз вакно ў 12 г. у ночы, як яны скачуць. Дык вось за гэта параўнавалі яму так бакі, што ён проста ня мог нормальна хадзіць аж праз цэлы месяц.

Другі выпадак падобны здарыўся ў нядзелю 5 верасьня.

Местачковая моладзь зладзіла такі, звычайны, можна сказаць, вечар. Паліцыя-ж і тут не асталася нэйтральнай: яна і тут, ведама-ж п'яная, пачала чапіцца до хлапцоў, навет Антона Рагача паліцыянт Гуркевіч страшэнна зьбіў. Відаць, што Жодзішная паліцыя ня можа жыць без мардабойства і, каб паказаць нейкі свой асабліві аўтарытэт, ды каб людзі болей іх баяліся, яны паўтараюць гэта час ад часу. А тымчасам, паводле польскай конституцыі, паліцыя ня мае права зачапіць жаднага грамадзяніна.

У нядзелю 12 верасьня гэтае самае здарэньне сталася ізноў-жа каля Жодзішак. У гэты дзень, сябры, падцьверджанага п. Старастам Гуртка, зладзілі сяброўскую вечарыну. Раптам на гэтую забаву ўваліліся два няпрошаныя госьці—паліцыянты: Гуркевіч, а другога прозьвішча ня ведаю. Другі-кароценькі, грубенькі, ды, на дадатак, у чырвоных ботах. У хаце быць як найлепшы парацак: некаторыя скакалі, а іншыя, каб не марнаваць дарма часу, знаёміліся з сцэнічнымі творамі. Гэтым якраз быў сябра Эдвард Чартовіч, я быў у другой хаце і знаёміў групку сяброў і сябровак з п'есай „Пасланец“. Вельмі не спадабалася гэтае чытаньне кніжкі чырвоным ботам, бо штосьці слухаў, слухаў, ды пасьля пайшоў і паззваў Гуркевіча, які быў у хаце, дзе скакалі. Пасьля такіх казённых зваротаў, як:

„Co pan tu teatr urządza, czy zabawę? Czy pan masz pozwolenie czytać legalną książkę?“

узялі ды павялі яго як-бы на пастарунак. Але відаць, што ня было за што пісаць пратаколу, бо які-ж дурань піша пратаколы за чытаньне легальнай кніжкі?

Але паліцыя хацела толькі пазьдзекавацца і аказалася тое, што паліцыянт Гуркевіч даў некалькі разоў па твары сябру Э. Чартовічу. За што? За што? Гэтак робяць у нас „культурнікі“. Дык бачыце, што ў нас выраблае паліцыя.

*Гаротны Беларус.*

#### Добры пісар, а стараста яшчэ лепшы.

(Кухоцка-вольская воласьць, Пінскага павету).

У вол. Кухоцкая Воля пісар Красоўскі вялікі п'яніца і хабарнік. Аб яго п'янстве і хабарох пісалі старасту, дык прыедзе стараста Нядзельскі, пераначуе і ўсё добра. Кажуць, што тут вінен не адзін пісар, але і ягоная харошая і хітрая жонка.

*Л. Я.*

#### Войт жыць не дае.

(Любешоўская вол., Пінскага пав.).

У нашай воласьці сяляне хацелі закласьці свой беларускі гурток, дык наш войт Любешоўскай вол., Рыгор Тарашчук, хаця і сам Беларус, але несьвядомы, вялікі падлыжнік паном, зрабіўся вельма п'яніца, апалячыўся і вялікім хабарнікам стаў, не пазваляе закласьці гуртка. Ен кажа: „Калі вы зарганізуеце свой гурток, дык я вас пасаджу ў астрог“. Апроч таго, як войт прыедзе ў вёску, то каб зрабіць людзём што добрае, дык не, а ўперад пастаў яму пляшку гарэлкі і дай каўбасу, масла і сьмятаны да яшчэ кажа напячы бліноў. А калі начуе, дык пасьцялі мяккую пасьцелю, пастаў дзьве пляшкі гарэлкі і прывядзі дзяўчыну.

*Янка Лебяда.*

*Ад Рэдакцыі:* Ня трэба слухаць войта, ён за арганізаваньне беларускіх гурткоў ня мае права караць. Дамагайцеся перавыбараў войта!

## НАВІНЫ.

— **Беларуская лекцыя.** Віленскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ладзіць сьцяг (рад) лекцыяў. У нядзелю 10-га кастрычніка пра·ытае лекцыю д-р Я. Станкевіч на тэму „Беларускія мусульмане й беларуская літаратура арабскім пісьмом“. Лекцыя будзе ў залі пры касьцёле сьв. Мікалая, завулак сьв. Мікалая № 8.

— **Спынены выклады** на двух вышшых курсах земляробскай студыі Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні, тое самое зроблена з архітэктураю. Гэтае спыненьне сталася з прычынаў аканоміцкіх. У Польшчы на войска й паліцыю грошы ё, але на асьвету іх не стае.

— **Земляробскаю арганізацыю** ў нашым краю імкнуцца захапіць у свае рукі спалячаныя паны—віленскія монархісты. З гэтаю мэтаю яны („Консэрватыўная Арганізацыя Гаспадарсьцьвенае працы“) між іншым 28 верасьня зрабілі ў Вільні інформацыйна-дыскусыйнаю зборку. Каб лягчэй было завааладаць земляробскімі арганізацыямі ў нашым краю, паны хочуць злучыць іх у вадну арганізацыю. Як ведама, земляробскія арганізацыі Заходняй Беларусі дагэтуль у нас у руках польскіх, каторыя і праводзяць пераз іх полёнізацыю. Гэта-ж, толькі яшчэ ляпей, хочуць рабіць і паны монархістыя.

Мы дамагаемся, каб была дадзена магчымасьць стварэньня беларускіх земляробскіх арганізацыяў і каб ім, як дагэтуль адным польскім, урад выдаваў памогу.

— **Сьвята 50-тых угодкаў літэратурнае працы Часлава Янкоўскага** было 2 кастрычніка. Часлаў Янкоўскі належыць да тых Беларусаў—польскіх пісьменьнікаў, што хоць і пішуць папольску і лічаць сябе Палякамі, але любяць наш край. У творах Часлава Янкоўскага адбіваецца беларускае жыцьцё. Жадаем паважанаму Юбіляну дальшых удачаў.

— **Едуць у Палестыну.** 9 кастрычніка едзе зь Вільні 250 Жыдоў у Палестыну.

## Зь Незалежнае Літвы.

#### Нота Літвы ў Лігу Народаў проці Польшчы.

Літоўскі ўрад паслаў генэральнаму сэкрэтару Лігі Народаў гэтакаю ноту:

„Пане Генэральны Сэкрэтару! Пасьле ўзьніку сур'ёзнага інцыдэнту на часовай польска-літоўскай лініі дэмаркацыйнай у раёне Кернова, дзе польскае войска заняло лес па баку літоўскім гэтае лініі, і па паведамленьню аб гэтым літоўскім урадам Радзе Лігі Народаў, Яго Эксцэленцыя п. Сціолёя, як спаўняючы абавязкі старшыні Рады, лістом сваім з дня 9 сакавіка 1926 р. запрапанаваў абодвым урадам —літоўскаму й польскаму вярнуць тое пала-

## Поэтыцкае творства Янкі Купалы.

*(Дзеля 20-х угодкаў ягонага літаратурнага творства).*

### IV. Спадчына.

„Гэй, родныя песьні! Вы у суме і горы,
„Ці ночка пануе, ці сівер дзьме зімны, —
„Для роднай зямелькі вы—сьветлыя зоры,
„Для роднага краю вы—райскія гымны!“

*Я. Купала.*

Пераз год, прыблізна, пасьля выхаду ў сьвет зборніку *„Шляхам жыцьця“*, што зьяўляецца каронай дагэтуляшняга лірыка-эпічнага творства паэты, выбухае эўрапэйская, або лепей —сусьветная вайна.

Як ведама вайна зь яе жахамі ня прыяе развою мастацтва; „Inter bellum silent Musae“, — кажа прыказь (прыказка), дык і наш поэта ў працягу вайны піша надта-ж мала і толькі з пачаткам вялікае ўсходне-эўропэйскае рэволюцыі, пад уплывам магутнага соцыяльнага ўздыму сярод народу беларускага, творства ягонае, бяручы сілу зь вялікіх падзеяў, ізноў пачынае ажыўляцца, красаваць, выяўляючы далейшы духовы рост песьняра.

Гэтак праходзіць некалькі год і вось толькі ў 1922 годзе, амаль што не праз 10 год ад зьяўленьня зборніку „Шляхам жыцьця“, наш пясьняр абдорue беларускае грамадзянства новым зборнікам сваіх поэзіяў пад назовам *„Спадчына“*.

Вялікі, бо лічучы 221 старонак, зборнік гэты, выданы ў Менску Белар. Коопэр. Выдав. Т-вам *„Адраджэньне“*, запраўды зьяўляецца спадчынай колькінанцаці-годняе поэтыцкае працы песьняра; зьяўляецца ён спадчынай у тым сэнсе, што поэта змясьціў тут побач з пэўнай колькасьцяй новых лірыкаў і паэмаў, усю тую, даволі значную, астачу свайго творства, якая дзеля тых ці іншых прычынаў не магла быць зьмешчаная ў папярэдніх зборніках.

Дзякуючы гэтаму, у тым, казаў той, „літаратурным архіве“, які прадстаўляе *„Спадчына“*, чытар, побач з новымі рэчамі знаходзіць творы поэты і з усіх папярэдніх эпохаў ягонага творства, ажно да 1905 году ўлучна! Частка іх відаць была забракавана самым поэтам, іншыя не маглі быць зьмешчаны дзеля тагачасных цэнзурных абставінаў, дзякуючы рэволюцыйнаму зьместу, а яшчэ іншым прам—такі не хапіла тады месца.

Гэткім парадкам *„Спадчына“* абыймае вершы з эпохі 1613—1922 год плюс „літаратурны архіў“.

Прыглядаючыся гэтаму запраўднаму конглёмэрату поэзіі, якім ёсьць *„Спадчына“*, у якой першарадныя пэрліны поэзыі перамешаны з малавартай драбязой,—трудна ўстрымацца ад некалькіх увагаў датычна гэткага роду зборнікаў.

Справа ў тым, што цяперака гэткія вялізныя зборнікі чыста выйшлі з моды! Сучасны чалавек пры шалёным тэмпе сягодняшняга жыцьця ня мае часу на доўгія, бясконцыя повесьці ці поэмы, якія гэтак былі да ўспадобы нашым, маючым шмат часу, прадзедам.

Гэтак сама не да ўспадобы сучаснаму чытару і вялізныя зборнікі поэзыяў, на якія трэба патраціць шмат часу і цярплівасьці, каб сярод няўхільнага ў гэткага роду публікацыях, выбачайце за выражэньне, сьмяцьця, знайсьці рэчы запраўды мастацкія і цэнныя.

Дзякуючы вышсказанаму, повесьці, цяперака зрэдукаваліся пераважна да 100—150 старонак размеру in octo (васьмёркі),*) а зборнічкі поэзыі дык маюць, няраз, толькі па 10—20 старонак, але затое зьмест іх—першарадны і кожны аматар літаратуры ахвотна іх купіць і прачытае, бо хворма і зьмест іх адпавядаюць духу часу!

Як прыклад гэткіх, адпавядаючых сучасным умовінам, беларускіх выданьняў, успомнім тут хоцьбы гэткія зборнічкі як *„Уяўленьне“* і *„На ростані“* — Жылкі, або *„Беларусь“* — Родзевіча.

Але вернемся да *„Спадчыны“*.

*) З гэтым паглядам аутаравым аб вялічыні цяперашніх повесьцяў ды поэмаў Рэдакцыя не згаджаецца

жэньне, што было перад 15 лютым 1926 году. Абодва ўрады згадзіліся на пропозыцыю п. Старшыні Рады, але той ня лічыў патрэбным дасьледаваць гэтаю справу ў часе паседжаньня Рады 18 сакавіка 1926 г.

Зь вялікім болем чуюся змушаным наказаць Вашай Эксцэленцыі, што, ня гледзячы на запэўненьне польскага ўраду, status quo ante ня быў вернены і войска польскае дагэтуль астаецца ў той часьці керноўскага лесу, каторае заняло ў часе стацьцёў 17 і 22 лютага, ламаючы пры гэтым дэмаркацыйнаю лінію.

Дзеля гэтага дазваляю сабе прасіць Яго Эксцэленцыі інтэрвэнцыі ў польскага ўраду, каб у раёне Кернова было вернена палажэньне з перад 15 лютага 1926 г.

Прымеце, Пане Гэнэральны Сэкрэтару, выражэньне майго высокага паважаньня.

Першы дэлегат Літвы на сёмай Зборцы Лігі Народаў".

### Літоўска-радавы трактат.

Надовячы падпісаны літоўска-радавы трактат, каторы будзе мець важнае значэньне для абодвых краёў.

Крыўда, зробленая Польшчаю Ліцьве ў 1920 г. і непапраўленая дагэтуль, прывяла да гэтае ўмовы, каторая для Польшчы можа мець грозныя сьледамкі (насьледкі).

Тэкст трактату: арт. 1) Мірны трактат 1920 году, каторага ўсе пастановы захавалі поўнаю сваю сілу і незачэпнасьць, астаецца асноваю адносінаў паміж СРСР і Літвой; арт. 2) СРСР і Літва забавязуюцца ўзаемна шанаваць пры ўсялякіх абставінах тэрыторыяльнаю сувэрэннасьць, цэласьць і незалежнасьць абодвых гаспадарстваў; арт. 3) а) параграф аб не нападаньню, b) у прыпадку, калі-б адна із старонаў, ня гледзячы на сваю мірнаю палітыку, была нападзена з боку аднаго або некалькіх трэціх гаспадарстваў, другая старана забавязуецца не памагаць гэным гаспадарствам; арт. 4) калі трэцяе гаспадарства зробе палітычнаю ўмову ськіванаю проці аднае з умоўніцаў (аднае із старонаў, што ўмаўляюцца) або ў сувязі з конфліктам, прадбачаным у парагр. 2 арт. 3 або таксама калі адна з умоўніцаў ня будзе замешана ў збройны конфлікт, а створыцца коаліцыя трэціх гаспадарстваў з мэтаю акономіцкага або фінансавага байкоту аднае з умоўніцаў, дык другая старана ня прыступіць да такой коаліцыі; арт. 5) кажа аб консыліяцыі; арт. 6) зацьверджаньне гэтага трактату павінна настаць у працягу шасьцёх тыдняў ад яго падпісаньня, мена ратыфікацыйных дакумэнтаў будзе ў Коўні; арт. 7) час трываньня трактату азначаецца на 5 год, апрача арт. 1 і 2, каторыя трываюць час неазначаны. Па пяцёх гадох настане аўтоматычнае прадоўжаньне на год, калі жадная із старон ня выкажа зычэньня пачаць перагаворы аб яго зьмене.

### Тэкст нотаў пры падпісаньню літоўска-радавага трактату.

Нота літоўскага прэм'ера Сьлежэвіча: (скарочаная) 1) абодва гаспадарствы разглядалі справы зьвязаныя з належнасьцяй Літвы да Лігі Народаў, пры гэтым Літоўскі Урад выходзіў, робячы ўмову, зь пераканаиьня, што прынцыпы арт. 4 ўмовы ня могуць нарушаць забавязаньняў Літвы перад Лігаю Народаў; арт. 2) Літоўскі Урад выказуе пераканаьне, што належнасьць Літвы да Лігі Народаў ня можа быці перашкодаю прыязнаму развою адносінаў з СРСР; арт. 3) (даслоўна): адначасна Літоўскі Урад, маючы на ўвеце географічнае палажэньне Літвы, думае, што па дзеля забавязаньняў, вынікаючых для Літвы з пакту належнасьці яе да Лігі Народаў і згодна з агульнай ідэяй пакту, Літва мае права рэгуляваць усялякія міжнародныя контрасты такім мірным спосабам, каторы найбалей адпавядае яе жыцьцёвым патрэбам.

Нота Чычэрына: кіруючыся жаданьнем відзець літоўскі народ, як і іншыя народы, незалежным, што саюзны ўрад неадноўчы выказаваў у сваіх выступленьнях, а таксама згодна з нотаю радавага ўраду з 5-IV.23 г. да ўраду літоўскага і спачуцьцём, каторае доля літоўскага народу будзіць у працоўных масах радавага саюзу, радавы Урад заяўляе, што факт нарушэньня літоўскай граніцы, каторы стаўся проці волі літоўскага народу, не захістаў яго адносінаў да сувэрэннасьці тэрыторыяльне азначанай арт. 2 і ўвагамі да трактату з дня 12 ліпеня 1920 года.

## З Польшчы.

### Польскія неспадзеўкі.

Як ведама, просьле таго як правай большасьцяй Сойму была выказана нявера міністру Суйкоўскаму і Младзяноўскаму, прэм'ер Бартэль злажыў кабінэт у старым складзе, значыцца з Младзяноўскім і Суйкоўскім. Гэта ўжо было чыстае насьміханьне над большасьцяй Сойму. Трэ' было спадзявацца, што большасьць Сойму йзноў выкажа няверу „новаму" ўраду і што просьле гэтага Сойм будзе распушчаны і будуць назначаны новыя выбары ў Сойм.

Але ня ўсе спадзяваньні спраўдзіліся. Урад Бартлеў ізноў мусіў пайсьці ў дымісію, але Сойму прэзыдэнт не распусьціў. Калі ў Сойме разглядалася папраўка сэнацкая аб зьменшаньню на 35 (няпоўных) міл. зал. бюджэту на апошняю чэцьверць, дык Сойм гэтаю папраўку прыняў. Як ведама, раней Сойм зацьвердзіў гэты 35 міл. зал. Дык цяпер раздражненьне соймавай правіцы дайшла да таго, што яна навет выступіла проці свае ранейшай пастановы. Просьле гэтага стала зусім ясна, што ўраду будзе выказана нявера. Урад гэтага не чакаў і сам пайшоў у дымісыю. Проці спадзяваньня Сойм ня быў распушчаны, а тварэньне новага ўраду прэзыдэнт даручыў марш. Пілсудскаму. Сойм дзеля таго ня быў распушчаны, што кругі Пілсудскага—Бартэля ня прыгатаваныя да новых выбараў.

### Новы ўрад марш. Пілсудскі ўтварыў у гэтакім складзе:

Прэм'ер і міністар вайсковых справаў — марш. Яз. Пілсудскі; віцэ-прэм'ер і міністар асьветы—проф. Бартэль; мін. унутраных справаў—ген. Славой-Складоўскі; заграпічных справаў—Залескі; скарбу—Г. Чаховіч; промыслу й гандлю — Квяткоўскі; земляробства — Незабітоўскі; зямельных рэформаў — проф. Вітаўт Станевіч; комунікацыі—Рамоцкі; грамадзкіх работаў—Марачэўскі; працы і грамадзкае апекі—Юркевіч; справядлівасьці—Мэйштовіч.

Адначасна прэзыдэнт 2 кастрычніка зачыніў сэсію Сойму. Новая сэсія Сойму будзе ў канцы гэтага месяца.

### Напад на пасла Зьдзяхоўскага.

Уночы з чацьвергу на пятніцу 30 верасьня некалькі чалавекаў, апраненых у ахвіцэрскія мундзеры, уварвалася ў гасподу (кватэру) былога міністра скарбу пасла Зьдзяхоўскага, хочучы яго пабіць. Дзеля таго, што Зьдзяхоўскі надта дужы, пачалася ў цёмнай гасподзе крывавая бітва. У рэзультаце п. Зьдзяхоўскі мае рану на галаве ад вытня кольбаю, выбіты зуб, зьбітаю шыю. Як Зьдзяхоўскі ляжаў замлелы, нападаючыя зьбілі яго ўсяго ботамі, так што на грудзёх, нагах, бруху й плячох ёсьць сьцяг (рад) крывавых сьлядоў ад ботаў.

Нападаючыя крычэлі: „Згонім табе ахвоту мяшацца ў вайсковы бюджэт".

Як ведама, п. Зьдзяхоўскі быў на цяперашняй сэсіі Сойму прадстаўнікем эндэцкага клюбу і востра крытыкаваў урад Бартэля.

Польскія газэты ўсе абураныя гэтым нападам на п. Зьдзяхоўскага. Абураныя й мы Беларусы. Ня можам аднак тутака ня прыпомнець, што Беларусаў б'юць—катуюць тысячамі, б'е паліцыя і г. п., прозьвішчы катаў бываюць блізу заўсёды ўстаноўлены, але катаў не караюць і польскія партыі аб гэтым маўчаць.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Забастоўка вуглякопаў у Англіі.

Забастоўка яшчэ цягнецца, але работнікі ня ўсе маглі вытрываць бяз працы і цяпер працуе іх звыш 60 тыс. чалавекаў. На конфэрэнцыі дэлегатаў саюзу вуглякопаў пастаноўлена зрабіць плебісцыт сярод вуглякопаў аб вугальных пропозыцыях урадовых.

### Немцы дамагаюцца колёніяльнага мандату.

Надовячы была ў Бэрліне конфэрэнцыя саюзу „Ганза". На конфэрэнцыі прынята рэзолюцыя рэвізіі пляну Даўса і прызнаньне Нямеччыне колёніяльнага мандату.

### Продаж Анатольскай зялезнай дарогі?

З Бэрліна наказуюць, што турэцкі ўрад маніцца выкупіць у Нямеччыны Анатольскаю зял. дарогу за 75 міл. турэцкіх хунтаў.

### Вугальна-зялезны трэст.

1-га кастрычніка папісана ўмова ў справе вугальна-зялезнага трэсту паміж Нямеччынай, Францыяй, Бэльгіяй і Люксэмбургам. Умова зроблена на 5 год. Прадбачана ў ёй прыступленьне да трэсту Чэхаславаччыны й Польшчы. У гэтай умове Нямеччына й Францыя мусілі зрабіць уступкі на карысьць Бэльгіі. Уступкі гэтыя зробленыя коштам Польшчы й Чэхаславаччыны, якім мае быць прызнаны вельмі малы контыгент. На перагаворы ў Парыжы ў справе контыгенту вугальна-зялезнага трэсту ані Польшча ані Чэхаславаччына ня былі запрошаныя.

### Што будзе з Данцыгам?

„Journal des Financy" наказуе, што закончаньне францускa-амэрыканскага пакту мае настаць пасярэдне дарогаю разьвязаньня данцыгскага пытаньня.

Пры разглядзе справы Купэн і Мальмэды нямецкая дэлегацыя дала зразумець, што цікавіцца галоўна ўсходнімі граніцамі.

Англія не пярэчыць адданьню Данцыгу Нямеччыне, Францыя таксама гатова была-б згадзіцца на гэта, каб далі важнаю надгароду польскаму ўраду.

Затое Францыя дастала-б абяцаньне, што

---

Устрымлюючыся покульшто ад агульных увагаў на тэму гэтага, мала ведамага віленскім Беларусам, зборніку, пачнём з крытычнага агляду асобных яго адзьдзелаў, якіх ёсьць усіх ажно шэсьць.

*І-шы адзьдзел займае 42 старонкі і пасьвячаны тэмам патрыотычным;* пачынае яго прыгожы, пявуча-маркотны верш п. н. *„Спадчына"* (ст. 7), каторы пачынаецца гэтак:

„Ад прадзедаў спакон вякоў
„Мне засталася спадчына;
„Паміж сваіх і чужакоў
„Яна мне ласкай матчынай.
„Аб ёй мне будзіць успамін
„На ліпе бусел клёкатам
„І той стары, амшалы тын,
„Што лёг ля вёсак покатам;
„Аб ёй мне баюць казкі—сны
„Вясеньнія праталіны.
„І лесу шэлест верасны,
„І ў полі дуб апалены.
„І тое нуднае ягнят
„Бляяньне—зоў на пасьбішчы,
„І крык вароніных грамад
„На могілкавым кладзьбішчы".

Гэнай „спадчынай" у канцы верша аказуецца Беларусь—„старонка родная". Настрой гэтага вершу—поўны ціхога суму—ёсьць вельмі характэрны для беларускай псыхікі.

Варта адзначыці, што верш гэты—„новы"; паўстаў у 1918 годзе. Падчыркуем мы гэты факт затым, што амаль ня ўсе найлепшыя вершы гэтага зборніку, належаць да апошняга з дагэтуль агаворанных перыядаў (1913—1922 г.), асабліва-ж да другой яго паловы (рэволюцыйныя часы 1917—1922 г.), ня гледзячы на тое, што тут ёсьць цэлая маса вершаў із старэйшых год; зьявішча гэтае ёсьць бяссумлеўным довадам няспыняючагася развою поэтыцкага таленту Купалавага.

Чарговым, зьвяртаючым увагу вершам, ёсьць пяруновы верш п. н. *„Свайму народу"* (ст. 13), у якім аўтар, рысуючы яскравымі хварбамі слаўную мінуўшчыню і нягодную сучаснасьць Беларусі, у гарачых славох заклікае народ беларускі да барацьбы, кажучы:

„...Паўстань і глянь, як зьзяюць
[скрозь вагнішчы,
„Як носяцца ўсясьветных зьмен віхры,
„Як на старога быту папялішчы
„Цьвет зацьвітае новае зары!..."

У вершы гэтым, зьмест якога робіцца болей зразумелым, калі адзначым, што ён паўстаў у 1918 г. ў пэрыядзе сусьветнае вайны, соцыяльных рэволюцыяў і вызвольных нацыянальных рухаў ува ўсёй Эўропе, цікаўным ёсьць тое, што Купала тут выступае ў гэтак характэрнай для яго ролі *вучыцеля беларускага народу* і яго духоўнага павадыра, што зьяўляецца неад'емным атрыбутам *нацыянальнага поэты,* якім справядліва называюць Купалу.

Далей вызначным ёсьць верш *„Валачобнікі"* (ст. 10); у гэтым сымбалічным вершы, у якім валачобнікамі зьяўляюцца Беларусы, што „ў валачобнікі запісаны судзьбінай...", — цікавіць наўперад сама хворма вершу, поўная нейкага шырокага і зважнага размаху, а так-жа настраёвы зьмест яго, пранікнуты містычнымі ноткамі і глыбокім артызмам. Вось яго пачатак:

„Што год, вясной, у дзень, вялікім
[званы,
„Зьбіраюцца яны, як буслы ў вырай,
„І йдуць пад вокны гурмай абарванай
„Набожную жальбу заводзіць шчыра.
„Паны атласныя і зрэбныя сяляны
„Вітаюць іх, як послаў з таго міру:
„Той кіне сьвенчана яйцо, а той —
[мядзяк:
„Як жабракоў іх дарыць свой брат
[і чужак".

А крыху далей, у тым-жа вершу ахоплены адчаем над нядоляй свае Бацькаўшчыны поэта пытаецца:

*„О ноч! о бесканечны твой над намі ход!*
*„Калі-ж пакінеш ты туманіць наш*
*[народ?*

і на гэнае, магутнае сілай пачуцьця, пытаньне сваё, кіненае нязнаным сілам, — не дастае адказу.

*Сьветазар.*

(Далей будзе).

